ЧЫТАЙЦЕ: у кінастудыі „Беларусьфільм" · Віктарава хітрасць · Белы чалавек здаўся!

# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 6 (415) | ГОД IX | 9 ЛЮТАГА 1964 г. | ЦАНА 60 ГР.

СПРАВЫ НАШАЙ ШКОЛЫ

## ГРАМАДСКАЕ ВЫХАВАННЕ — НА ЎСІХ ПРАДМЕТАХ

У розных асяроддзях вядзецца палеміка на тэму новага прадмета ў новай праграме навучання для сёмага класа. Гэтым прадметам з'яўляецца грамадскае выхаванне.

Сёняшнія пяцікласнікі праз два гады ўжо ў школьных пасведчаннях будуць мець адзнакі па гэтым прадмеце. Гэта будзе не толькі праверкай іх ведаў у гэтай галіне, але і экзаменам для настаўнікаў — выкладчыкаў гэтага прадмета, і думаю, што нават і іншых прадметаў. Бо грамадскае выхаванне, хоць будзе ўведзена ў двух апошніх класах падставовай школы, мабыць, як ні адзін другі прадмет, звязана з усёй дыдактычнай выхаваўчай сістэмай школы.

Гэтая праўда можа паказацца дзіўнай. Што ж, здаецца, супольнага можа мець з выхаваннем уменне чытаць і пісаць? Ці ж для ведання, напрыклад, геаграфіі ці хіміі патрэбны гэты дадатковы прадмет? Каб развеяць гэтыя сумненні, трэба адказаць на адно вельмі рытарычнае пытанне: каго мы хочам выхаваць — добрага практыка ці чалавека, які добра разумее, чаму павінен быць добрым практыкам у той ці іншай галіне? І тут, мабыць, немагчыма аддзяліць заданні дыдактыкі ад выхаваўчых мэт.

З гэтага пункту гледжання цяжка таксама чакаць два гады, пакуль у школьных праграмах з'явіцца прадмет, аб якім ідзе гаворка. Вельмі пільнай справай з'яўляецца падрыхтоўка поля дзеяння для той вялікай ролі, якую мае выконваць грамадскае выхаванне ў старшых класах васьмігадовай школы.

Ці можна вывучаць мову, гісторыю, геаграфію (пакуль яшчэ грамадскае выхаванне не ўведзена ў школах), не беручы пад увагу сацыялогію, эканоміку, этыку, без эмацыянальных адносін вучня і настаўніка да вывучаемага матэрыяла, без актуалізацыі тэмы, прадумання, самастойных прапаноў? Уважлівы чытач школьнай праграмы знойдзе амаль ва ўсіх прадметах элементы таго, што ў суме якраз дае ідэйна - выхаваўчае ўздзеянне школы. Трэба толькі ўмець гэтыя элементы заўважыць і скласці ў адно цэлае. Ды не толькі гуманітарныя прадметы павінны быць школай грамадскага мыслення. Практычна - тэхнічныя заняткі ў V—VII—VIII класах і ўрокі ручной працы ў малодшых класах, апрача ўсяго іншага, фарміруюць сацыялістычныя адносіны да працы, развіваюць уменне ашчаджаць, фарміраваць сумленнасць і вытрымку.

А матэматыка? Здаецца, няцяжка звязваць змест задач з жыццём краіны. Значная частка настаўнікаў якраз так і працуе. А фізіка і хімія? Гэтыя прадметы ў першую чаргу фарміруюць погляд на свет.

Як бачым, вельмі сур'ёзны задачай, якая стаіць перад настаўнікамі амаль усіх прадметаў, з'яўляецца папаўненне ўсяго навучання праблематыкай грамадскага выхавання на працягу ўсяго прабывання дзіцяці ў школе. Таксама вялікую ролю павінна адыграць і праца маладзёжных арганізацый,

(Працяг на стар. 5)

## ЛЮДЗІ XX-годдзя

# Міхалоўскі

# АГРАНОМ



У Новай Волі зямля выдатная. Але і яна патрабуе ведаў. Ведаў гаспадара. Зараз нававольцы гэта разумеюць. Агранам пераканаў. Параў не адну пару ботаў, хадзячы ад хаты да хаты і паказваючы сялянам як рабіць сілас, як падрыхтаваць высакаякасны корм для жывёлы на зіму. Кожную сераду пасля абеду нававольцы запаўняюць мясцовую школу. На лекцыі грамадскага агранома Міхася Грыкі як звычай прыходзіць 100—150 чалавек. Без асаблівага запрашэння.

Гэтак жа і ў Пяньках і ў другіх вёсках грамады Міхалова.

* * *

Перамяніць структуру сельгасвытворчасці ў вёсках усёй грамады — нялёгкая справа. Дадайма, не кожнаму аграному гэта ўдаецца. Міхасю Грыку, дзякуючы яго настойлівасці і пераканаўчай сіле доказаў, удалося. Зараз на тэрыторыі грамады Міхалова асноўныя культуры — гэта кармавыя расліны, як буракі, лубін, сэрадэля, канюшына, бручка. У сувязі з гэтым у грамадзе выразна выдзяляецца слушны напрамак сельгасвытворчасці — жывёлагадоўля. У гэтым яна і спецыялізуецца.

— Што гэты напрамак слушны, — кажа Міхась Грыка, — можна даказаць на прыкладзе некалькіх вёсак. У вёсках Капцы і Пяньці ёсць 95 гаспадароў. Маюць яны 462 гектары ворнай зямлі і 325 гектараў сенажацяў. На гэтай плошчы яны ўтрымоўваюць 354 галавы рагатай жывёлы, у гэтым ліку 244 дойныя каровы. У выніку павелічэння жывёлагадоўлі толькі гэтыя дзве вёсачкі проста заліваюць малаком міхалоўскую малачарню.

Так, але каб дайсці да такіх відавочных вынікаў, агранам вымушаны быў з алоўкам у руках вылічыць амаль кожнаму гаспадару карысць, якую дае жывёлагадоўля, паказаць яго магчымасці ў гэтым напрамку.

(Працяг на стар. 5)

СЯРГЕЙ БАНДАРЭНКА

## ІДУЦЬ БЕЛАРУСЫ

«А хто там ідзе, а хто там ідзе
У агромністай такой грамадзе?
— Беларусы».

(Я. Купала).

Ці будзеш пытацца: «А хто там ідзе,
А хто там ідзе, светларусы?»
Сягоння па песні, што льецца з грудзей,
Спазнаеш: ідуць беларусы.

А што ж яны свету нясуць напаказ,
Сумленныя гэтыя людзі?
Мо' крыўду ці боль, што калісьці не раз
Пяклі іх упалыя грудзі?

О, не! Не спрадвечную крыўду сваю,
Не смутак, не цяжкае гора, —
Нясуць яны шчасце, што імі ў баю
Здабыта пад залпы «Аўроры».

Ідуць беларусы — арліная раць —
Пад гоман жытоў і заводаў.
Нікому хады іх цяпер не стрымаць
У братнім саюзе народаў!

## ГОСЦІ З МІНСКА

На запрашэнне Галоўнага праўлення таварыства польска-савецкай дружбы ў Польшчы прыбыла двухасабовая дэлегацыя з Мінска, якая прыняла ўдзел у семінарах і ўрачыстасцях, прысвечаных 45-ай гадавіне БССР. У склад гэтай дэлегацыі ўваходзілі намеснік кіраўніка Дома партыйнай прапаганды пры Цэнтральным Камітэце Камуністычнай партыі Беларусі Алег Андрэевіч Ясінскі і дацэнт геаграфічнага факультэта Беларускага дзяржаўнага універсітэта ў Мінску Уладзімір Анатольевіч Навіцкі. Госці з Мінска пабывалі таксама на Беласточчыне. Наведалі яны Беларускі агульнаадукацыйны ліцэй у Бельску, пабывалі ў Белавежы і Гайнаўцы, у Шэпетове і Высока - Мазавецкім. У Дубінах і Арэшкаве (Гайнаўшчына) прадстаўнікі Савецкай Беларусі мелі спатканне з насельніцтвам. У перапоўненых вясковых святліцах вельмі цікава расказвалі яны аб жыцці і працы беларускага народа, аб дасягненнях і планах развіцця беларускай дзяржавы. Усюды, у горадзе ці на вёсцы, наша насельніцтва аказвала цёплы і радушны прыём прадстаўнікам брацкага беларускага народа, усюды ўручалі ім жывыя кветкі.

22 студзеня ў Беластоку, як мы ўжо паведамлялі, госці з Мінска прысутнічалі на ўрачыстым пасяджэнні, прысвечаным 45 гадавіне Беларускай рэспублікі, якое было арганізавана Галоўным праўленнем БГКТ.



У ПЕРАЛЕСКАХ — Фота: У. Гаўлючук

## ВЕСТКІ з БССР

# У КІНАСТУДЫІ „БЕЛАРУСЬФІЛЬМ"

У прасторным вестыбюлі галоўнага корпуса кінастудыі «Беларусьфільм» насупраць увахода размяшчаецца вялікі экран. На ім назвы фільмаў. Сюды быццам спраектавана ўся работа творчага калектыва беларускіх кінематаграфістаў за 1963 год. Некаторыя фільмы ўжо закончаны, іншыя яшчэ робяцца.

Нядаўна на экраны Савецкага Саюза выйшаў кінафільм рэжысёра Барыса Сцяпанава і сцэнарыста Вадзіма Труніна «Апошні хлеб» (дзеянне адбываецца ў цалінным саўгасе).

Падзеям часоў Айчыннай вайны прысвечаны кінафільм «Трэцяя ракета» ў пастаноўцы Рычарда Віктарава. Фільм створаны па аднаіменнай аповесці беларускага пісьменніка Васіля Быкава.

Маладзёжная група на чале з рэжысёрам Уладзімірам Бычковым стварыла арыгінальную па замыслу і выкананню казку «Увага, у горадзе чараўнік». Гэта своеабразнае спалучэнне акцёрскага і лялькавага фільма, дзе побач з жывымі людзьмі дзейнічаюць лялькі.

Здымачны калектыў пад кіраўніцтвам Аляксея Спешнева (ён і аўтар сцэнарыя) робіць кінафільм «Масква—Генуя». Кадры гэтага фільма перанясуць гледача ў пачатак дваццатых гадоў нашага стагоддзя. У фільме аднаўляюцца вобразы Чычэрына, Лойд-Джоржа, Ратэнау. Глядач убачыць на экране Хэмінгуэя і Марселя Кашэна, якія прысутнічалі на Генуэзскай канферэнцыі як журналісты. «Масква — Генуя» раскажа аб першых кроках савецкай дыпламатыі.



Выканаўца галоўнай ролі ў фільме «Песня аб Вераніцы» Святлана Макарава.

Рэжысёр Валянцін Вінаградаў па сцэнарыю беларускага пісьменніка Алеся Кучара робіць фільм «Песня аб Вераніцы.» У аснове фільма — трагічная, поўная высокай рамантыкі біяграфія беларускай рэвалюцыянеркі - падпольшчыцы Веры Харужай.

Працягваецца праца над каляровай шырокаэкраннай кінакамедыяй «Рагаты бастыён» па сцэнарыю Андрэя Макаёнка, рэжысёр Пётр Васілеўскі. Тэма — дом.

Кароткаметражная кінанавела «Не плач, Алёнка» — першая праца маладога рэжысёра Віталія Чатверыкова. Гэта хвалюючы расказ аб першым каханні.

Для беларускага кіно апошніх гадоў характэрны пераход да самастойнай творчасці маладых рэжысёраў, аператараў, мастакоў. Фільмы, аб якіх гаварылася вышэй, у асноўным — праца моладзі. Беларускіх кінематаграфістаў цікавяць самыя розныя тэмы, і таму на экраны краіны з кожным годам усё больш выходзіць фільмаў вытворчасці студыі «Беларусьфільм».



Адзін з апошніх кадраў кінафільма «Трэцяя ракета». У ролі Лёшкі Задарожнага — артыст Леанід Давыдаў - Субач, у ролі Лазняка — Станіслаў Любшын.



Кадр з кінанавелы «Не плач, Алёнка». У ролі Алёнкі — студэнтка Рэна Дамброўская.

У фільме здымаюцца вядомыя савецкія акцёры Хіцяева, Плят, Глебаў, Ярэменка і іншыя.

Закончана работа над фільмам «40 мінут да світання» (рэжысёр Барыс Рыцараў), які складаецца з трох на~эл аб лёсах былых франтавікоў.

Р. РАМАНОЎСКАЯ

---

ДА АКРУГОВАГА З'ЕЗДА ЗБоВіД

# ДОБРЫЯ ВЫНІКІ

Вялікую палітычна - выхаваўчую рабсту на Беласточчыне праводзіць Саюз змагароў за вольнасць і дэмакратыю (ЗБоВіД). Арганізацыя гэта налічвае ў сваіх радах больш трох тысяч членаў. Ва ўсіх паветах існуюць аддзелы, якія працуюць на грамадскіх асновах.

Арганізацыя наглядае за ўшанаваннем месц, дзе пралілася людская кроў у гады нямецкай акупацыі. Да гэтага часу ўстаноўлена, што ў Беластоцкім ваяводстве ёсць 262 месцы, дзе былі расстраляны або замучаны людзі.

Ваяводскае праўленне ЗБоВіД апрацавала карту, на якой паказаны месцы злачынства з выпіскай колькасці загінуўшых людзей. Зараз праводзіцца ўпарадкаванне ўсіх магіл, абгароджванне іх, будуюцца помнікі, абэліскі і ўмуроўвуюцца мемуарныя дошкі. Ужо пастаўлена 70 помнікаў і ўмуравана 41 дошка. Перадана пад апеку школам, арганізацыям і паасобным установам 177 масавых магіл. Перадача апекі над масавымі магіламі заўсёды адбываецца ўрачыста. Неаднойчы арганізуюцца дэманстрацыі, як гэта было на Бельшчыне ў Піліцкім ляску. Да ўпарадкавання магіл, да іх абгароджвання і будовы помнікаў уключаецца насельніцтва. У Ломжы немцы замучылі 12 тысяч чалавек. Упарадкавана гэта месца грамадскім чынам. Праца аблічана на суму 115 тысяч зл.

У 1963 годзе многа зроблена ў Беластоцкім павеце, дзе ёсць найбольш месцаў злачынства. Новыя бетонныя агарожы зроблены на трох могілках: у Грабоўцы, Пятрашах і Навасёлках.

Вялікім зацікаўленнем у Беластоку ў Доме Прафсаюзаў карысталася выстаўка пад загалоўкам «Пакуль прыйшло вызваленне». Арганізавана была яна Ваяводскім праўленнем ЗБоВіД. Выстаўку наведала больш 20 тысяч чалавек. У верасні мінулага года гэта выстаўка перавезена ў Ольштын.

Сур'ёзныя дасягненні мае ЗБоВіД у галіне выдавецтва. Выдана 4 кніжкі Аляксандра Амільяновіча, у якіх расказваецца аб нямецкіх злачынствах на Беласточчыне і аб барацьбе насельніцтва з акупантамі. Знаходзіцца ў друку альбом з вышэй успомненай тэматыкай.

ЗБоВіД з'яўляецца ініцыятарам і арганізатарам многіх мерапрыемстваў, звязаных з гадавінамі: 20-атая гадавіна паўстання ў Беластоцкім геце, XX гадавіна Войска Польскага, гадавіна пачатку другой сусветнай вайны (1 верасня) і іншыя. У сувязі з гадавінай Вялікай Кастрычніцкай рэвалюцыі ЗБоВіД арганізаваў 232 спатканні насельніцтва з партыйнымі дзеячамі і ўдзельнікамі рэвалюцыі. З нагоды пачатку II сусветнай вайны было арганізавана 130 спатканняў. Ва ўсіх гэтых урачыстасцях узяло ўдзел каля 56 тысяч чалавек.

Арганізацыя ЗБоВіД многа звяртае ўвагі на сацыяльна - бытавы бок сваіх членаў, а перш за ўсё ветэранаў рэвалюцыйнага руху, удоў і сірот па загінуўшых змагарах. Хворым дапамагае выехаць у санаторыі, купіць загранічныя лекі, а найбяднейшым і тым, каго спаткала нейкае няшчасце, прыдзяляе грашовую дапамогу. У 1963 годзе грашовыя дапамогі склалі суму 63 тысячы.

На свой Акруговы з'езд (9-га лютага) Беластоцкая арганізацыя ЗБоВіД прыйшла з вялікімі дасягненнямі.

(мх)

---

куп палатна, фарбы, клею і іншых матэрыялаў і рэчаў, патрэбных для тэхнічных акцый. Высокасць членскіх складчын не была ўстаноўлена, кожны даваў столькі, колькі мог. Кожны гурток вырашаў гэту справу так, каб здабыць як найбольш грошай на вялікія патрэбы арганізацыі. І трэба сцвердзіць, што ўсе ячэйкі стараліся вывязацца з гэтага задання з гонарам, хоць членамі камсамола была ў асноўным, як вядома, найбяднейшая моладзь.

Вось, для прыкладу, як вырашыла справу фінансавых уплываў для арганізацыі наша хмеліскаўская ячэйка. Дзяўчаты (было іх дзве) абавязаліся плаціць па 1 зл. у месяц, хлапец, які працаваў у маёнтку, — 4 зл. у месяц (заробак 4-х дзён), а мы трое, што працавалі на шашы і зараблялі па 2 злотых у дзень, — па 8 злотых у месяц. Ніхто з нас ніколі не меў задоўжанасці ў складчынах. Прытым даводзілася часта даваць на патрэбы МОПР-у і на бастуючых. Былі ў вёсках і такія камсамольцы, якіх сем'і жылі ў вялікай бядзе, а яны нідзе не працавалі і не маглі ўносіць нейкую пастаянную складчыну. Яны аднак ухітраліся здабыць грошай за злоўленую ў графскім лесе звярыну, або за здабытыя ў тым жа лесе дровы і тады адразу ўплочвалі большую суму. Былі і такія, што кідалі курыць, каб заашчаджаныя на курэнні грошы аддаць арганізацыі.

---

# ШЧОДРЫ СЕЙБІТ ПАЭЗІІ



6 лютага споўнілася 50 год з дня нараджэння выдатнага паэта Савецкай Беларусі Аркадзя Куляшова. Гэтаму выхадцу з сялянскай сям'і давялося ставіць свае першыя літаратурныя крокі ў новы час, калі культурная рэвалюцыя ў краіне стала ўжо фактам. Не спазнаў паэт горычы лёсу тых народных творцаў, якія ў дарэвалюцыйны час марнелі ў жорсткіх цісках адсталасці і забітасці. Можна смела сказаць, што ішоў ён поплеч з новай эпохай, адлюстроўваючы яе слаўныя справы ў шчырых і моцных вобразах сваіх вершаў і паэм.

Важнай падзеяй у жыцці пісьменніка з'яўляецца яго першае выступленне ў друку. У А. Куляшова адбылося гэта ў 1926 г., калі ў клімавіцкай акруговай газеце «Наш працаўнік» з'явіўся верш маладога паэта «Ты рабочы». Неўзабаве новыя творы ўбачылі свет на старонках другіх газет і часопісаў у літаратуру ішоў добры, шматабяцаючы талент. 1930 год прыносіць першую кнігу вершаў «Росквіт зямлі». Яна супала з перыядам вялікіх поспехаў сацыялістычнага будаўніцтва, з перыядам буйных пераўтварэнняў на вёсцы. Менавіта гэтыя справы нязменна хвалявалі творцу, дыктуючы яму новыя тэмы і вобразы. Эпіграфам гучаць для новага часу радкі з верша «Сустракайце маладымі песнямі» (1931 г.):

Усе мы
 сонечнае заўтра
 песцілі,
А яно сягоння
 скалатнула вёску і горад.
Сустракайце ж маладымі
 песнямі,
Любіце яго так,
 як любілі ўчора!

Росквіт паэтычнага таленту ў Куляшова ішоў побач з настойлівай адукацыяй — гэтым неабходным залогам будучых удач. З'яўляючыся студэнтам літаратурнага факультэта Мінскага педінстытута, беларускі творца не парваў сувязей з навакольным жыццём, асабліва вясковым, якое было для яго заўсёды самым блізкім. Патрабавальны для сябе, ніколі не спыняўся на дасягнутым. Патрапіў сам у сваёй творчасці бачыць заганы і патрапіў няспынна яе ўдасканальваць. А. Куляшоў удумліва засвойваў лепшыя традыцыі беларускай і рускай літаратур. Да спадобы прыпалі яму асабліва Купала і Колас, Пушкін і Някрасаў, Маякоўскі і Твардоўскі.

Трыццатыя гады ў паэта былі напружаным творчым перыядам. Выходзяць з друку кніга за кнігай зборнікі вершаў і паэм: «Па песню, па сонца», «Аманал», «Медзі дождж», «Гарбун». 1938—1939 гадамі датуецца цікавая паэма пісьменніка «У зялёнай дуброве». Яна ў яркіх вобразах малюе новы калгасны быт, паказвае, як ідэя калектыўнай працы стала блізкай і роднай беларускаму сялянству. Айчынная вайна не спыніла творчай працы Куляшова. Знаходзячыся на фронце, пісаў

(Працяг на стар 7)



Пад гармонік лягчэй спяваць.

# У ВУЛЬЦЫ ВЯСНА

Асноўную ролю ў культурна-асветным жыцці вёскі Вулька-Нурэцкая, Сямяціцкага павета, адыгрываюць настаўнікі мясцовай школы. За апошні час тут вельмі добра разгарнуўся мастацкі рух, ініцыятарам якога з'яўляецца кіраўнік школы Анатоль Мартыновіч. Вядома, што праца загадчыка школы патрабуе



Удзельніца эстрады «Лявоніха» Валя Цімашук перадае Анатолю Мартыновічу народныя ўборы. Гэта дар ГП БГКТ самадзейнікам Вулькі - Нурэцкай.

нямала часу. Аднак Анатоль Мартыновіч знаходзіць час і на культурную дзейнасць сярод моладзі і старэйшых жыхароў вёскі. Арганізаваў ён і вядзе вясковы 45-асабовы хор. 12-асабовы драмгурток ужо падрыхтаваў п'есу Янкі Купалы «Паўлінка». Кіраўнік арганізаваў і музыкальны гурток.

Па ініцыятыве настаўнікаў пры школе арганізаваны асветны курс для дарослых з праграмай навучання 7 класа і курс беларускай мовы. Намечана таксама арганізаваць курс сельскагаспадарчай падрыхтоўкі з мэтай ахапіць як найбольшы круг сялян агратэхнічнымі ведамі.

Найбольш папулярная і масавая форма культурнага жыцця вёскі — святліцовая праца. Святліца ніколі не пустуе. Тут кожны вечар гуртуецца моладзь і старэйшыя, каб паглядзець праграму тэлебачання або правесці баталію на шахматным стале.

8 студзеня ў святліцы арганізавалася кавярня. Пры «чорнай» можна пачытаць часопісы на польскай, беларускай і рускай мовах або падыскутаваць аб прачытанай кніжцы.

Анатоль Мартыновіч арганізаваў дзве цікавыя экскурсіі сялян у Беласток. У час адной з іх удзельнікі пабывалі на оперы ў тэатры ім. А. Вянгеркі і сустрэліся з акцёрамі. У час другой экскурсіі ўдзельнікі пазнаёміліся з горадам, пабывалі ў музеі і на фабрыцы «Сяржана», дзе сустрэліся з рабочымі.

У Вульцы - Нурэцкай на нуду няма часу. За адпаведную ролю настаўнікаў у жыцці вёскі жыхары Вулькі Нурэцкай вельмі ім удзячны. Ганарацца імі.

**СЯРГЕЙ КРЭЙЗА**
Мілейчыцы
**Фота В. Рудчык**



Удзельніцы хору з Вулькі-Нурэцкай.




## Конкурсы народнага мастацтва

Нядаўна закончыўся конкурс народнага мастацтва, які быў арганізаваны паасобнымі аддзеламі БГКТ. Найлепш быў ён арганізаваны Сямяціцкім аддзелам у Мілейчыцах (аб ім ужо мы паведамлялі чытачоў).

Беластоцкі аддзел у Міхалове таксама даволі добра арганізаваў конкурс. Было прадстаўлена 25 розных экспанатаў з рукадзелля. Першую ўзнагароду за вышыўку блузкі і фартуха беларускімі ўзорамі атрымала Анна Аверка з Міхалова. Другую ўзнагароду заваяваў ручнік Анны Матвейчык з Гарадка. Трэцюю і чацвертую ўзнагароду атрымалі Оля Бура за ручнік, і Анастасія Грыка за дыванік. Абедзве яны з Бандароў.

У Бельску на конкурсе народнага мастацтва было 37 экспанатаў. Там таксама можна было ўбачыць цікавыя вышыўкі ручнікоў, блузак, фартухоў і г.д. Узнагароды атрымалі Марыя Рагоза з Маліннікаў, Зінаіда Добаш з Рыбалаў і Вера Брэнько з Грэдалёў.

Сакольскі аддзел БГКТ, згодна з планам, меў арганізаваць конкурс народнага ткацтва. З прычыны дрэннай арганізацыі і нядбайнасці інструктара ГП БГКТ Янкі Беразаўца конкурс прайшоў на вельмі нізкім узроўні.

Яшчэ горш было ў Гайнаўскім аддзеле БГКТ. Інструктары ГП БГКТ Вера Юшчук і Андрэй Беразавец не праявілі дастатковай увагі да конкурсу, які мог быць найцікавейшым. Паводле плану мелі б-:ць там народныя вырабы з саломы. Аддзел сабраў толькі 14 экспанатаў, але да гэтага часу конкурсу не закончыў.

(мх)

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# ТАЯМНІЧЫЯ ЛІТАРЫ N,P,K.

Калі гаворым, што расліна жыве, дык можам пацвердзіць гэта на падставе нагляданняў. Калі скажам, што самая маленькая расліна есць, дыхае, пастаянна будуе новыя клеткі свайго арганізму, дык гэта ўжо справа дыскусійная. Расліна есць? Як, чым, калі? А аднак расліна сапраўды харчуецца. Усё жывое выказвае абмен рэчываў, расце і адмірае, развіваецца і гіне. Прырода — велізарны аб'ект кругазвароту ў матэрыі.

Вядома, расліны маюць іншую, сваю «ежу». Іх ежай не могуць быць складаныя арганічныя ці мінеральныя злучэнні. Яны павінны быць у глебе ў выглядзе простых мінеральных рэчываў, г.зн. элементаў, такіх, як азот, фосфар, калій, сера, вапна, або выступаючых у малых колькасцях, але неабходных для правільнага развіцця такіх, як медзь, бор, кобальт, цынк, малібдэн і г.д. Расліна можа ўспрыймаць толькі хімічныя элементы.

У сувязі з пастаяннай патрэбай у мінеральных рэчывах для будовы раслін, колькасць тых рэчываў з кожным годам усё больш змяншаецца. Іх недахоп папаўняецца за кошт распаду ў глебе мінеральных злучэнняў і шляхам угнаення. Штучнае ўгнаенне трактуецца як дадатковае.

Беластоцкія сяляне ўсё больш пераконваюцца, што ўгнаенне спрыяе павышэнню ўраджаяў. Таму і павышаецца попыт на мінеральныя ўгнаенні. У гэтым годзе мінеральных угнаенняў будзе на 30,4% больш, чым у мінулым годзе. Асабліва павялічана колькасць фосфарных угнаенняў.

Чаму іменна фосфарных?

Ужо некалькі гадоў заўважаецца на Беласточчыне попыт на азотныя ўгнаенні. Гаворыцца, што яны найважнейшыя. У такім меркаванні вялікая памылка. Такі попыт на азотныя ўгнаенні тлумачыцца тым, што гэтыя ўгнаенні адразу даюць вынікі, выразна паляпшаюць ураджаі ў тым самым годзе. А фосфарныя і калійныя ўгнаенні, асабліва некаторыя з іх, дзейнічаюць павольна. Напр., фосфарная мука дзейнічае на працягу некалькіх (нават да 10) год.

Таямніца высокіх ураджаяў зусім не крыецца ў азотным угнаенні. Найлепшыя вынікі дае комплекснае ўгнаенне, гэта значыць, угнаенне трыма асноўнымі ўгнаеннямі — фосфарным, азотным і калійным. Тады расліна :ае найбольш патрэбныя для яе развіцця рэчывы.

Выкарыстанне мінеральных угнаенняў у нашым ваяводстве вельмі малое. Перадавыя краіны, як ГДР ці Чэхаславакія, даюць на гектар у сярэднім каля 150 кг угнаенняў у пералічэнні на чыстыя элементы. Перадавыя ваяводствы ў Польшчы, як Познань, Быдгашч, Аполе ці Уроцлаў прымяняюць каля 60 кг угнаенняў на гектар. У нас сярэдняе выкарыстанне яшчэ ў два разы ніжэйшае. У гэтым і заключаецца адна з галоўных прычын нізкіх ураджаяў.

У час зімовага навучання шмат гаворыцца аб асобных угнаеннях і спосабах угнаення. Гэта тэма карыстаецца агульным зацікаўленнем. Варта звярнуць увагу і на прапорцыі прымянення розных відаў угнаення.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# Праф. Станіслаў Грабоўскі аб Юзэфе Даброўскім

Няспынна пашыраюцца нашыя веды аб доследах даўніх выдатных прадстаўнікоў славянскага свету над гісторыяй старажытнай беларускай пісьменнасці. Каштоўны ўклад у гэтую справу ўнёс прафесар Ягелёнскага універсітэта Тадэуш Станіслаў Грабоўскі, аб якім мы ўжо неаднаразова пісалі, абмяркоўваючы працы вучонага ў галіне польска-беларускіх узаемаадносін. Нядаўна была апублікавана ў спецыяльнай серыі гістарычна - філалагічных прац Ягелёнскага універсітэта манаграфія праф. Грабоўскага аб вядомым чэшскім славісце Юзэфе Даброўскім (1753—1829), які даследваў старажытную беларускую літаратуру.

Ю. Даброўскі — гэта святыня ў гісторыі славістыкі. Ён афіцыяльна прызнаны заснавальнікам гэтай галіны ведаў, якой упершыню надаў сапраўдны навуковы характар. Чэшскага вучонага па праву называюць сёння «бацькам славянскай філалогіі». Цяжка проста сабе ўявіць, што Даброўскі ах..піў і навукова асвятліў 10 стагоддзяў гісторыі свайго народа і яго духоўнай спадчыны, а разам з тым займаўся пісьменнасцю, а таксама мовай усіх славянскіх народаў, пакідаючы нашчадкам незвычайную колькасць матэрыялаў па пытаннях літаратуразнаўства і мовазнаўства. Манаграфія ў скандэнсаваным выглядзе прадстаўляе гэты багаты набытак Ю. Даброўскага. У ёй праводзіцца думка аб вялікай ролі славіста ў адраджэнні чэшскага народа, які праз доўгія стагоддзі анямечваўся і стагнаў пад чужаземным прыгнётам.

Праф. Грабоўскі расказвае, з якой карпатлівасцю і самаадданасцю Ю. Даброўскі вывучаў чэшскую літаратуру, як падрыхтоўваў сваёй дзейнасцю прыход новых яе даследчыкаў-любіцеляў. Аўтар адначасова выяўляе заканамернасці, якія прывялі чэшскага вучонага да доследаў над мовай і пісьменнасцю паасобных славянскіх народаў. Крыніцай зацікаўлення Даброўскага беларускай, рускай і украінскай мовамі была спачатку царкоўна - славянская мова. Неўзабаве, аднак, ён наладзіў перапіску з усходнеславянскімі вучонымі, каб углыбіцца ўжо ў жывыя мовы і літаратурную спадчыну гэтых народаў. Нас, зразумела, найбольш цікавяць адносіны Даброўскага да беларускай мовы і пісьменнасці. Праф. Грабоўскі падкрэслівае, што з гэтымі пытаннямі спалучала чэшскага славіста перад усім постаць Францішка Скарыны як першага перакладчыка «Бібліі» і друкара - гуманіста. На думку аўтара манаграфіі, выхад у 1517—1519 гг. у Празе гэтага каштоўнага беларускага забытку штурхнуў Даброўскага на шлях яго вывучэння. Аказваецца, Даброўскі неаднаразова вяртаўся да «Бібліі» Скарыны і правільна меркаваў, што яе пераклад быў зроблены па жаданню польскага караля Зыгмунта Старога, спрыяючага, як адзначае праф. Грабоўскі, беларускай народнасці нароўні з усімі Ягелёнамі, якія на сваім двары ахвотна карысталіся беларускай мовай. А ў сувязі з тым, што ў Польшчы ў той час не было кірыліцкіх друкарняў, Скарына быў прымушаны, мабыць, нават пры фінансавай дапамозе караля, паехаць у Прагу, дзе і апублікаваў першую частку свайго перакладу. Праф. Грабоўскі піша, што ў Нацыянальным музеі ў Празе дасканала захаваліся выданні Скарыны, у тым ліку апублікаваная ім ужо ў Вільні ў 1525 годзе «Малая падарожная кніжыца». Усе гэтыя матэрыялы даследваў Даброўскі.

У 1792 — 1793 гг. чэшскі вучоны ў навуковых мэтах наведаў Швецыю, Расію і Польшчу. У сваёй справаздачы з падарожжа ў Швецыю і Расію п.з. «Litterarische Nachrichten», апублікаванай у 1795 г., таксама займаецца Скарынай, таму што ў Швецыі адшукаў і вывучыў яго «Апостала» з 1519 г., выданага ў Празе. Шмат увагі справе перакладаў і друкарскай дзейнасці Скарыны прысвячае Даброўскі ў працы п.з. «Institutiones lingvae slavicae dialecti veteri:». Праф. Грабоўскі называе яе эпахальнай, таму што чэшскі вучоны і тут палажыў асновы пад славянскую філалогію як навуку. Адной з найбольш спелых і фундаментальных прац Даброўскага лічыць аўтар манаграфіі «Geschichte der böhmischen Sprache» — асаб-

